# У МЕНСКУ АДБЫЎСЯ IV ЗЬЕЗД БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ І ІІІ ЗЬЕЗД ПАРТЫІ БНФ

**УХВАЛА**

**IV Зьезду Беларускага Народнага Фронту**

## ПРА НЕДЭМАКРАТЫЧНЫЯ ЎМОВЫ ПРАВЯДЗЕНЬНЯ ВЫБАРАЎ У ВЯРХОЎНЫ САВЕТ

Выбарчая кампанія 1995 г. у Беларусі разгортваецца ў складаных умовах.

Права людзей на свабоднае і сьвядомае волевыяўленьне абмежаванае. Мэтанакіравана звужаюцца магчымасьці інфармаваньня выбаршчыкаў пра кандыдатаў. На падкантрольных адміністрацыі Прэзідэнта дзяржаўных радыё і тэлебачаньні забаронены жывы эфір. Недзяржаўнае тэлебачаньне - "8 канал" - валявым распараджэньнем зачынена. Прэзідэнцкія структуры здымаюць з пасадаў галоўных рэдактараў буйных дзяржаўных газет, перасьледуюць недзяржаўную прэсу.

Прэзідэнт, насуперак Канстытуцыі, умешваецца ў выбарчую кампанію. Ён выдаў указ, які фактычна пазбаўляе кандыдатаў нармальных магчымасьцяў сустракацца з выбаршчыкамі і адбірае ў іх натуральнае права абапірацца на арганізацыйную падтрымку сваіх партыяў.

Зрыў выбараў зьяўляецца мэтаю партыі ўлады - старой наменклатуры, якая знайшла надзейнага абаронцу ў асобе А.Лукашэнкі. Замацаваць аўтарытарны рэжым патрэбна ўладзе для таго, каб разам з расейскім капіталам бескантрольна распарадзіцца агульнанароднай уласнасьцю і пазбавіць грамадзянаў Беларусі законна належнай ім уласнасьці.

Аднак інтарэсы беларускага народу патрабуюць іншага. Мы маем рэальны шанц кардынальна перамяніць палітычную сітуацыю ў краіне: спыніць разгул карупцыі, ажыцьцявіць эканамічныя рэформы ў інтарэсах народу, умацаваць незалежнасьць.

Заклікаем усіх грамадзянаў Беларусі прыйсьці на выбары, выбраць дастойных людзей у новы вышэйшы заканадаўчы орган і не дапусьціць устанаўленьня ў краіне аўтарытарнай антынароднай дыктатуры.

**8 красавіка 1995 г., г.Менск.**

**УХВАЛА**

**IV Зьезду Беларускага Народнага Фронту**

## ПРА РАЗБУРАЛЬНЫ ХАРАКТАР ПРЭЗІДЭНЦКАЙ ІНІЦЫЯТЫВЫ РЭФЕРЭНДУМУ

Каб напярэдадні выбараў адцягнуць грамадзкую ўвагу ад поўнага правалу ў эканоміцы, А.Лукашэнка выступіў з ініцыятывай рэферэндуму.

Прапанаваны прэзідэнтам рэферэндум пра статус расейскай мовы і магчымую адмову ад нацыянальнай сымболікі ня мае канстытуцыйных падставаў. Нідзе ў сьвеце падобныя пытаньні не выносяцца на галасаваньне, бо вызначаюць асновы і перспектывы бытаваньня нацыі. Ва ўмовах Беларусі яны здольныя толькі раскалоць грамадзтва.

Прапанаванае пытаньне пра "згоду з курсам Прэзідэнта на эканамічную інтэграцыю з Расеяй"- спроба А.Лукашэнкі адначасова здабыць вотум даверу выбаршчыкаў і заручыцца далейшай падтрымкай дзяржаўна-манапалістычных колаў Расеі, зацікаўленых у фармальным далучэньні ці фактычнай інкарпарацыі Беларусі ў Расею.

Пытаньне пра пашырэньне паўнамоцтваў прэзідэнта закладаецца ў рэферэндум дзеля таго, каб мець магчымасьць нейтралізаваць непажаданыя для Лукашэнкі і тых сілаў, якія за ім стаяць, вынікі выбараў і нават распусьціць новаабраны парламант. Прызначэньне рэферэндуму адначасова з выбарамі ў Вярхоўны Савет мае на мэце перашкодзіць нармальнаму ходу выбараў і тым самым падрыхтаваць пераход да аўтарытарнага прарасейскага рэжыму.

Абвешчаньне рэферэндуму пярэчыць Канстытуцыі, якая забараняе ўносіць у яе зьмены ў апошнія 6 месяцаў паўнамоцтваў Вярхоўнага Савету. Прэзідэнцкая ініцыятыва рэферэндуму руйнуе беларускую грамадзянскую супольнасьць, якая пачынае фармавацца. Наносіцца ўдар па міжнародным аўтарытэце дзяржавы. Рэферэндум нясе не стварэньне, а разбурэньне, наступны крок за якім - страта незалежнасьці краіны.

Абавязак усіх канструктыўных палітычных сілаў краіны, усіх сумленных, патрыятычна і дэмакратычна настроеных людзей - не дапусьціць справакаваньня разбуральнага і ганебнага для нашай краіны і народу рэферэндуму.

**8 красавіка 1995 г., г.Менск.**

## ЧАС МІТЫНГУ І ТЭХАГЛЯДА СУПАЛІ

9 красавіка ў Менску адбыўся мітынг Беларускага Народнага Фронту, прысьвечаны прэзідэнцкай ініцыятыве правядзеньня рэферэндуму. Планавалася, што ён адбудзецца ля Дома афіцэраў, аднак сабраўшыся а 17-й гадзіне людзі ўбачылі, што пляцоўка перад Домам афіцэраў занятая міліцэйскімі машынамі. Высьветлілася, што аўтамабілям тэрмінова спатрэбіўся тэхагляд, але даведацца, хто даў указаньне выставіць дзеля гэтага 70 машын, не ўдалося.

Мітынг быў перанесены на прыступкі Вярхоўнага Савета. Мітынгуючыя абмеркавалі прэзідэнцкі рэферэндум і прынялі нарэшце гэтага рэзалюцыю. Знамянальна, што пасьля заканчэньня мітынгу, завяршыўся і тэхагляд аўтамабіляў.

**СІМ**

## «Я ВЫЛУЧАЮСЯ АД БНФ, КАБ БУДАВАЦЬ НЕЗАЛЕЖНУЮ БЕЛАРУСЬ!»



**Уладзімір Кісялевіч нарадзіўся 26 красавіка 1957 года ў вёсцы Разьдзялавічы Ганцавіцкага раёна Берасьцейскай вобласьці. Мае дзьве вышэйшыя адукацыі: юрыст і затэхнік. Бацькі - беларусы, усё жыцьцё працуюць на зямлі. У сям'і было дзевяць дзяцей, таму вучыўся ў школе-інтэрнаце ў Пінску. Пасьля заканчэньня ў 1975 годзе школы, паступіў у Гарадзенскі тэхнікум фізічнай культуры, адкуль быў прызваны ў войска. Лейтэнант запасу, майстар спорта па вольнай барацьбе.**

**З 1979 па 1986 год вучыўся на юрыдычным факультэце Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я.Купалы. Працаваў юрыстам у СКП "Ніва" у в.Рацічы Гарадзенскага раёна. У 1990 г. скончыў завочна Гарадзенскі сельскагаспадарчы інстытут па сьпецыяльнасьці заатэхнік. З 1992 года працуе адвакатам і займаецца сельскай гаспадаркай.**

**Жыве ў в.Рацічы Гарадзенскага раёна. Жанаты, мае дванаццацігадовую дачку і чатырохгадовага сына. Старшыня партыі БНФ Гарадзенскага раёна.**

**- Што наогул прывяло цябе ў БНФ?**

- Хачу найперш зазначыць, што ў гэтай арганізацыі я ад самага пачатку яе дзейнасьці. Што мяне сюды прывяло? Думаю, як і тысячы людзей, я прыйшоў у БНФ, каб будаваць сваю незалежную дзяржаву - Беларусь. Народны Фронт першы сказаў праўду пра Чарнобыль і Курапаты, выкрыў злачынствы камуністычнай партыі. І, дарэчы, высьветлілася, што БНФ казаў правільна, але начальства не хацела і ня хоча гэтай праўды. Зараз я таксама ў БНФ, таму што нашая партыя выступае за дэмакратычныя ідэалы, за моцную незалежную Беларусь, за сацыяльную рынкавую эканоміку, за нацыянальна-культурнае адраджэньне Беларусі. І, нарэшце, галоўнай мэтай БНФ "Адраджэньне" зьяўляецца вольны чалавек у адроджанай вольнай Беларусі.

**- Паколькі ты вылучаешся ад БНФ, шмат каго з тваіх выбаршчыкаў напэўна будзе цікавіць, як ты і твая партыя ставіцеся да нацыянальных меншасьцяў і іх правоў, паколькі ў дзяржаўных СМІ дагэтуль шальмуецца гэтае пытаньне?**

- Я вельмі добра адчуваю гэтае пытаньне асабліва на нашай сьпецыфічнай Гарадзеншчыне. На нашай зямлі заўсёды жыло мноства нацыянальнасьцяў, і нам усім заўсёды хапала тут месца. І менавіта дзякуючы гэтаму, наш рэгіён мае сваю непаўторную ва ўсёй Эўропе багатую культурную спадчыну. Далей падманваць людзей, як рабіў гэта Кебіч і робіць Лукашэнка, нельга.

Дзяржава павінна паважаць правы кожнай нацыянальнай меншасьці і стварыць усе ўмовы для іх разьвіцьця, таму што яны толькі ўзбагачаюць нашую культуру. Разам з тым, прынцып нацыянальнага суверэнітэту дыктуе неабходнасьць дзяржаўнага кантролю за асноўнымі галінамі эканомікі і сістэмай адукацыі, каб пазбавіцца аднабаковасьці і абмежаванасьці, якія зьяўляюцца цяжкаю спадчынай каланіяльнай мінуўшчыны.

**- Якія,на тваю думку, першыя крокі павінен зрабіць новы парламант?**

- Грамадзкі ўрад Народнага Фронту распрацаваў праграму аздараўленьня эканомікі. Падобныя праграмы выконваюцца ў Чэхіі, Вугоршчыне, Польшчы, Эстоніі і г.д. Яна прадугледжвае ўвядзеньне стабільных беларускіх грошай, паніжэньне падаткаў для вытворцаў, правядзеньне сапраўднай народнай прыватызацыі, прыняцьцё новых законаў аб зямлі і аб інвестыцыях.

**Падрыхтаваў У.ЛІЦЬВІНОВІЧ.**

## СЯРГЕЙ МАЛЬЧЫК: «Я ЖАДАЮ НАШАМУ НАРОДУ СУМЛЕННАГА І РАЗУМНАГА КІРАЎНІЦТВА"



**Сяргей Сьцяпанавіч Мальчык нарадзіўся ў 1960 годзе на Берасьцейшчыне. У 1978 годзе з залатым медалём скончыў сярэднюю школу. З 1978 па 1984 год - студэнт Гарадзенскага медычнага інстытута. У 1984 годзе распачаў прафесійную працу медыка. Зараз спадар Мальчык - дацэнт кафедры паталагічнай фізіалогіі гарадзенскага медінстытута. У 1990 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю. Мае двух сыноў: аднаму дзевяць гадоў, другому - тры месяцы. Жыве сям'я сп.Мальчыка ў інтэрнаце медінстытута.**

**Сёньня Сяргей Мальчык - госьць рэдакцыі.**

- Госьцем у сяброў быць добра, але ў сваёй хаце лепш быць гаспадаром. На жаль, захады прэзідэнта, яго каманды, непрымірымых ветэранаў з ліку былых партыйных функцыянераў і адстаўных вайскоўцаў вельмі хочуць, каб беларус быў не гаспадаром, а госьцем на сваёй зямлі.

**- Чым Вы можаце абгрунтаваць свае думкі?**

- Рэферэндум, на які вынесены пытаньні аб сымболіцы дзяржавы, двухмоўі - гэта галоўны доказ. На маю думку, гэта вельмі небясьпечны крок. Прэзідэнт і яго памагатыя маюць намер адцягнуць увагу выбаршчыкаў ад выбараў і правaліць іх. Калі ж рэферэндум адбудзецца, то я мяркую, што ў грамадзтве ўзьнікне раскол. Менавіта гэтага хоча "агульнанародна абраны" прэзідэнт. Яму будзе лягчэй зрабіць з Беларусі паліцэйскую дзяржаву і такім чынам працягнуць сваю ўладу, бо за тыя абяцанкі, дзякуючы якім ён апынуўся пры ўладзе, надыходзіць час плаціць. Плаціць няма чым, трэба зноў падманваць, шукаць ворагаў,якія перашкаджаюць прэзідэнту. І гэты вораг - сам беларускі народ.

**- Але ж народ пасіўны?**

- Не, не ўвесь. Многія, як і я ў свой час, ужо зразумелі, што сёньня нельга быць пасіўным, што мала проста падтрымліваць прагрэсіўныя сілы, трэба нешта рабіць асабіста. Таму я ў 1994 годзе стаў сябрам Беларускага Народнага Фронту, каб дзейнічаць, каб тлумачыць народу, што без рэформаў і пераменаў няма будучыні.

**- Дарэчы, калі зайшла мова пра рэформы, то, на вашу думку, які іх лёс на Беларусі?**

- Яны на нашай Бацькаўшчыне не ідуць, бо ў сістэме ўлады нічога не зьмянілася. Наўзамен першых сакратароў абкамаў і райкамаў да ўлады прыйшлі другія, трэція. Хіба ім патрэбны рэформы? Яны, засеўшы ў камерцыйных банках, сумесных прадпрыемствах, жыруюць на інфляцыі. Мала гэтага, яны ня толькі ня хочуць, але і ня могуць штосьці зьмяніць. Пакуль да ўлады ня прыдуць новыя людзі з дзяржаўным мысьленьнем, з адпаведнай адукацыяй і ведамі, з распрацаванымі праграмамі - зьменаў ня будзе. Шэрагі БНФ маюць такіх людзей, якіх і буду падтрымліваць на выбарах.

**- Чым яшчэ, акрамя палітыкі і навукі Вы любіце займацца?**

- Я родам з вёскі, і захаваў сувязь з зямлёй. У мяне два захапленьні - добрая кніга і праца на лецішчы, чаму аддаю ўвесь вольны час.

**- Калі не сакрэт, то дзе Ваша лецішча?**

- Свае пяць сотак маю непадалёк вёскі Прывалкі. Там, на гэтай пяшчанай няўдобіцы вырошчваю столькі гародніны, што яе хапае на год. Тое ж самае маюць і мае суседзі па дачы. Таму, я ня раз лавіў сябе на думцы: што ж беларус здольны зрабіць, калі большасьць добрай зямлі будзе ўласнай!

**- Што б Вы пажадалі чытачам "Пагоні"?**

- Напярэдадні Вялікдзень. Таму віншую землякоў з Вялікім сьвятам і дай нам бог разумнага і сумленнага кіраўніцтва.

**Распытваў Г.АСТРОЎСКІ.**

## «БЫЛЫХ ЗАСЛУГ НЕ ЗАБЫВАЮТ-С...»

Значны спрыт выявіў пасьля вылучэньня кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета па Гарадзенскай Прынёманскай акрузе N 125 сябра Асацыяцыі "Дзелавая ініцыятыва" спадар Нясьцюк. Надрукаваўшы значную колькасьць улётак, ён заўчасна расклеіў іх па 125-ай выбарчай акрузе на сьценах крамаў "Сонечны" N 33 и N 58, а таксама на сьценах універсаму "Брэст". Да таго ж, у чытальнай зале мясцовага Дому афіцэраў і РАУС Кастрычніцкага раёна В.П.Нясьцюк правёў перадвыбарчую сустрэчу з жыхарамі Гораднi. Гэтым-самым кандыдат у дэпутаты парушыў указ прэзідэнта РБ аб недапушчэньні сустрэч з выбаршчыкамі да моманту рэгістрацыі.

На свой запыт кіраўнік Кастрычніцкай раённай Рады партыі Беларускага Народнага Фронту спадар А.Міхальчык у акруговай выбарчай камісіі N 125 атрымаў адказ ад старшыні І.П.Аляксандрава, што камісія з 13 чалавек ня бачыць у гэтым выпадку парушэньня закону.

За што ж такая пашана да спадара Несьцюка? Можа за тое, што падчас прэзідэнцкіх выбараў ён актыўна падтрымліваў А.Р.Лукашэнку? Відаць, былыя заслугі залічыліся шаноўнаму кандыдату ад Асацыяцыі "Дзелавая ініцыятыва".

**Г.Б.**



# ЛІСТЫ

## Паважаная Рэдакцыя Газеты «Пагоня»!

Вітаю з 25-ым Сакавіком! Жыве Беларусь!

Таксама жадаю Вам Усім - Хрыстос Уваскрос!

Ня маю ані воднага нумара Вашай паважанай газеты. Вельмі прасіла б Вас мне яе прысылаць і пры нагодзе, калі можна будзе поштай, вышлю падпіску.

Тут, у Францыі, беларускае грамадзкае жыцьцё, сумна сказаць, - амаль зацiхла.

Старэйшыя паўмiралі, а моладзі не выхавалі ў беларускім духу і з роднай мовай. У 1931 годзе была зложана беларуская арганізацыя "Хаўрус" - многа было членаў, былі філіялы па цэлай Францыі. Гэта члены эміграцыі пераважна з Заходняй Беларусі, што прыехалі на заробкі. Пасьля вайны хлынула новая хваля, тыя, што былі вывезены на работы ў Нямеччыну. Шмат было моладзі, жыцьцё кіпела. Зборкі, рэфераты, прадстаўленьні, урачыстыя супольныя сьвяты: 25 Сакавіка, Угодкі Слуцкага паўстаньня - быў Случчак, якому ў час паўстаньня было 18 год. Гэта інжынер Рыдлеўскі Лявон, які па паўстаньні інтэрнаваны ў Польшчы, скончыў Віленскую Беларускую гімназію, а потым агранамічны факультэт у Празе Чэскай і, прыехаўшы ў Францыю, разам з сябрам Абрамчыкам Міхалам, Язэпам Касаком, Адолей Букатам і Янкам Буйвілам заснавалі "Хаўрус" (1931 год).

Апошнімі гадамі кіраўніцтва "Хаўрусу" ня рупіцца ні пра ўгодкі случчакаў, ні нават 25 Сакавіка. БНР "аджыла", хопіць РБ. У памяшканьне "Хаўрусу" нахлынулі з "рускім языком" беларусы. Сумна і шкада, што стварылася такая сітуацыя. "Каб не гады свае...", - казаў Купала.

Але "Хаўрус" будзе жыць! Прыйдуць новыя сілы і БНР мае перад сабой яшчэ доўгі і цяжкі час змаганьня.

Калі б не было БНР у 1918 годзе - не было б і БССР, была б на беларускіх землях Расея.

Калі б на эміграцыі не было духу БНР - не было б і цяперашняй Рэспублікі Беларусь. Беларусь "вольная" - але ня ўсім!

"І даў загад нам добры Бог: каб кожны моцнаю рукою гараў загоны ды сеяў Волю і Родную Зямлю сьцярог".

Ларыса Геніюш, Прага, 1942 г.

Дык яшчэ жадаю Вам усяго найлепшага. Жыве Беларусь! Жыве БНР!

З пашанай

**Ніна ЛЯЎКОВІЧ.**
**Парыж, 20.3.95.**

## Шаноўная «Пагоня»!

Да Вас піша Юрка Крулеўскі з Баранавічаў на Берасьцейшчыне.

Падаецца ўсё на тое, што Лукашэнка можа выйграць свой рэферэндум, а гэта (цалкам магчыма!) будзе адзначаць канец усяго беларускага адраджэньня ў навейшай гісторыі канца XX ст.

Што рабіць?

Тут адная надзея на гарадзенцаў. Варта ўтварыць на Гарадзеншчыне "беларускі Львоў", "беларускую Галічыну". Галоўнае - праваліць на Гарадзеншчыне Лукашэнкаўскі рэферэндум.

Потым жа стварыць тут асяроддзе беларускай нацыянальнай самасьвядомасьці. Мы павінны мець супрацьвагу праарасейскім настроям. Гарадзеншчына - апірышча, Менск і Берасьцейшчына - дадатак.

Усход Беларусі павінен ведаць: палезе ён у Расейскую аўтаномію - зробіць злачынства па расколу дзяржавы.

Гарадзеншчына (1,5 млн.) рашуча адкіне прапановы прэзідэнта, Менск (2 млн.), Берасьцейшчына (1,5 млн.) і Меншчына (1,5 млн.) . Усяго - 6,5 млн. з 10 мільёнаў усёй Беларусі. Нямала! Ды яшчэ не вядома тое, што скажа Віцебшчына на захад ад Полацку (0,5 млн). На 70% насельніцтва можна спадзявацца такім чынам!

Лукашэнка хоча рэферэндуму?! Калі ласка! Вывядзем яго праз рэферэндум на чыстую воду!!!

Пры раўнавазе шаляў вырашальным даважкам будуць галасы менчукоў.

Варта зьвярнуць увагу людзей на тое, што там, куды лезе Лукашэнка, Грачоў і Жырыноўскі цягнуць праз Думу закон аб службе ў войску працягам у 3 гады, а на флоце - аж чатыры! Хай думае беларуская моладзь. І хай найперш думаюць іх бацькі! Сябры Народнага Фронту павінны гэта паўсюдна казаць. Ня варта пазьбягаць і таго, каб "упрыгожыць" вобраз "Сьвятой Русі" размовай пра Чачэнскую вайну і забойства тэлезоркі Лісьцева.

Суседзі Гарадзеншчыны - Польшча і Летува - былі галоўнымі антырасейскімі ды антыкамуністычнымі апазіцыянерамі. Польшча - у СЭВе, а Летува - у СССР. Гарадзеншчына павінна ў іх вучыцца і адыгрываць падобную ролю ў Беларусі. Менавіта такой павінна стаць Гарадзеншчына пасьля 14 траўня і 11 чэрвеня.

Жадаю посьпеху!

**P.S.:** Варта нагадаць, што ў суседзяў-летувісаў адраджэньне і стварэньне незалежнай дзяржавы ішло і натхнялася не з Каўнаса, Вільні ды наогул не з Усходняй і Цэнтральнай Летувы. У пачатку XX ст. і ў 1918 годзе незалежную Летуву стваралі магутныя хвалі незалежніцтва з паўночна-заходняй прыморскай Жамойці: Мажейкяй, Тельшай, Шаўляй, Таўрагe. Менавіта яны тады зрабілі нічым не прыкметны Каўнас сталіцай.

Нізкі Вам паклон, работнікі рэдакцыі газеты "Пагоня"! З павагай да Вас - падпісчык Аляксей Іванавіч Станкоў.

Прыехаўшы з вахты, я паўмесяцы працую ў Расеі, ад Воршы 80 кіламетраў.

Дык вось, прачытаў у Вашай газеце "Адкрыты ліст да Прэзідэнта Беларусі" і поўнасьцю згодзен ды гатовы падпісацца ніжэй Алеся Алехніка.

Прыкладна падобныя я пісаў у газету "Свабода." Біце трывогу па ўсяму сьвету, што зьнішчаецца беларуская нацыя. Я думаў, што я не разумею нешта, мо думаю няправільна, а чытаючы газеты, пераканаўся, што ў мяне ёсьць аднадумцы, дзякуй ім - спадару Астроўскаму, Алехніку і іншым. І добра, што ёсьць Ваша газета і "Свабода", якія яднаюць нас.

Я думаю, у Расеі будзе лепей, а там таксама жабрацтва.

Давайце пачынаць хоць з маленькага, калі хочам лепшай будучыні. У нас з Вамі адны мэты.

Хай жыве Беларусь родная!

## ДЫК ХТО БАНДЫТ?

Уключыш тэлебачаньне "Астанкіна" і ... пайшла праграма пра Чачню, пра тамтэйшых бандытаў. Страляюць у расейскіх жаўнераў і афіцэраў. Але, калі трошкі задумацца, хто сапраўдны бандыт, то прыходзіш да думкі, што бандытамі атрымоўваюцца расейскія войскі. Раней яны бразгалі зброяй па ўсяму сьвету, цяпер ваююць са сваім народам. Калі здолеюць загнаць Чачню ў кабалу сілай зброі, то потым возьмуцца за Рэспубліку Беларусь шляхам шантажу і подкупам некаторых таварышаў. Пра гэта трэба памятаць кожнаму сумленнаму чалавеку.

**Г.БУДЗЬКО,**
г.Горадня.

## Паважаная рэдакцыя «Пагоні»!

Зьвяртаюцца да Вас сталыя чытачы вашай газеты з г.Ваўкавыска. Чытаючы газету, мы зьвярнулі ўвагу на тое, што яе старонкі можна выкарыстоўваць больш рацыянальна. Мы маем на ўвазе праграму тэлеперадач, якая друкуецца амаль на дзьвух старонках. Калі б праграму друкаваць на адной старонцы, як гэта робяць іншыя выданьні, дык мы, чытачы вашай газеты, выйгралі б у дадатковым матэрыяле, які можна было б зьмясьціць.

Нам здаецца, было б вельмі добра, каб гэту з'эканомленую частку адвесьці чытачам пад нейкія рубрыкі. Напрыклад, у першым нумары кожнага месяца друкаваць лісты чытачоў з пэўнымі прапановамі, меркаваньнямі аб нейкіх падзеях і г.д. Да прыкладу, лісты накшалт гэтага.

У другім нумары месяца з'эканомленую частку адвесьці пад рубрыку, назваўшы яе ўмоўна "Мастацтва чытачоў". У ёй можна было б друкаваць няхай і не вельмі мастацкія, але ўсё ж творы чытачоў: вершы, нарысы, гумарэскі, цікавыя фотаздымкі, карыкатуры і г.д.

Газета выходзіць чатыры разы на месяц, таму і ўтварыць можна ня менш чатырох рубрык.

**Анатоль ЦІВУНЧЫК.**

**АД РЭДАКЦЫІ: Не прыслухацца да думак сваіх чытачоў рэдакцыя ня можа. Разумеем, што разважаньні, выказаныя ў лісьце, вельмі слушныя. Хацелася б, каб прыхільнікі "Пагоні" дасылалі свае вершы, гумарэскі, карыкатуры ў рэдакцыю. Ад гэтага выйграюць усе. Газета "Пагоня" пашырыла б кола сваіх аўтараў і сімпатыкаў, а нашы пазаштатныя аўтары змаглі б выказацца пра набалелае.**

## РАДЗІМА ПАВІННА ВЕДАЦЬ СВАІХ ГЕРОЯЎ

**альбо хто ёсьць хто на гістфаку гарадзенскага універсітэту.**

**Прысьвячаецца студэнтам гістфака ГрДзУ**

Характэрнымі рысамі існаваньня беларускай гістарычнай навукі ва ўмовах камуністычнага рэжыму былі адміністрацыйнае ўмяшаньне ў вызначэньне навуковай праблематыкі, рэпрэсіі ў дачыненьні да непажаданых рэжыму дасьледчыкаў, недастатковая кампетэнтнасьць гісторыкаў, выхаваных партыйнымі адміністратарамі. Вядома, што 90% (!) усіх абароненых на Беларусі дысертацый па гісторыі (а толькі з 1961 па 1987 г.г. было абаронена 662 навуковыя працы) былі прысьвечаны гісторыі савецкага перыяду. З іх каля 78% дысертацый разглядалі розныя асьпекты VII, VIII, IX, X пяцігодак народнай гаспадаркі (1961-1980 г.г.). 58% дысертацый былі зьвязаны з гісторыяй камуністычнай партыі. У пераважнай большасьці гэтых прац месца гістарычнай навукі займала камуністычная прапаганда.

Сёньня беларуская гістарычная навука, здаецца, пазбавілася адміністрацыйнага ўмяшаньня. Па меншай меры яно ня зьвязана з вызначэньнем навуковай праблематыкі. Не чутно і пра рэпрэсіі супраць непажаданых гісторыкаў. А вось з трэцяй вышэйзгаданай рысай складаней.

"Гісторыкі", для якіх гісторыя ніколі не была навукай, а зьяўлялася толькі сродкам служэньня партыйным бонзам за адпаведнае ўзнагароджаньне, у асноўным захавалі свае пасады. Праўда, з навукі гэтыя людзі адыходзяць. Ім няма чаго сказаць. І вучыцца яны ня ўмеюць. Затое яны ўмеюць "вучыць". Як змагацца з гэтым злом? Патрэбна верыфікацыя кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый на прадмет высьвятленьня іх прыналежнасьці да навукі альбо да прапаганды. Калі гэтага ня хоча рабіць дзяржава, гэта павінна зрабіць грамадзтва. Праанализаваць тэксты саміх дысертацый складана, затое няцяжка пазнаёміцца з тэмамі дысертацыйных дасьледваньняў. У гэтым дапаможа выданьне "Докторские и кандидатские диссертации по историческим наукам БССР. 1944-1987 г.г. Библиографический указатель"./сост.В.Михнюк, Л.Новицкая. - Минск,1988. Гэтая цікавая кніга, магчыма, дазволіць нам зразумець, хто ёсьць хто на гістарычным факультэце Гарадзенскага універсітэта.

**Кафедра гісторыі Беларусі:**

1. Бадзюкова Т.А. - "Антивоенное движение молодёжи Польши в годы подготовки и развязывания фашистской агрессии в Польше (1933-1939г.)" - 1980
2. Васілючак М.В. - "Деятельность КП(б)Б по упрочению союза рабочего класса и крестьянства в западных областях Белоруссии в период социалистических преобразований (сентябрь 1930 - июнь 1941г.)" - 1969
3. Жарскі М.В. - "Деятельность КПБ по развитию народного образования в республике (1946-1950)" - 1970
4. Іванчук Б.М. - "Деятельность КПБ по повышению роли лекционной пропаганды в коммунистическом воспитаании трудящихся (1966-1970)" - 1978
5. Коўкель І.І. - "Политическое банкротство националистической контрреволюции в Белоруссии (1918-1925)" - 1979
6. Крэнь І.П. - "Борьба профсоюзов Белоруссии за развитие химической промышленности в республике (1959-1965)" - 1981
7. Марцён М.У. - "Культурное строительство в белорусской деревне (1966-1975)" - 1985
8. Нядзелька У.А. - "Классовая борьба в белорусской деревне в 1926-1929 г." - 1971
9. Паўлючэнка Н.У. - "Антинародная роль православной церкви в Белоруссии в период первой русской революции (1905-1907)" - 1979
10. Палуцкая С.В. - "Брестская церковная уния 1596 г. и борьба народных масс Белоруссии против национально-религиозного гнёта (1596-1667)" - 1983
11. Фёдараў І.А. - "Униатская политика Ватикана в Западной Белоруссии в довоенные годы (1919-1939)" - 1985
12. Хілюта У.А. - "Землепользование и землевладение бывших помещичьих крестьян Гродненской губ. в середине XIX в. (40-е - нач. 70-х г.г.)" - 1982
13. Ягорычаў У.Я. - "Осуществление продовольственной политики Советской власти в Белоруссии (ноябрь 1917 -1920)" - 1980
14. Ярмусік Э.С. - "Интернациональные связи ЛКСМБ с союзами молодёжи европейских социалистических стран (1971-1980)" - 1988

**Кафедра гісторыі славянскіх народаў:**

1. Леанавец В.Ц. - "Организация и развитие исторической науки БССР (1961-1970)" - 1987
2. Працэнка В.Е. - "Участие Союза социалистической молодёжи Польши в создании материально-технической базы социализма в годы II пятилетки (1961-1965)" - 1975
3. Швед В.В. - "Торговля в Белоруссии в период кризиса феодально-крепостнических отношений (30-50 г.г. XIX в.)" - 1984
4. Чарапіца В.М. - "Революционные связи Белоруссии и Польши в 70-80-х г.г. XIX в." - 1979

**Кафедра ўсеагульнай гісторыі**

1. Дзяшко І.Ф. - "Борьба КПЗБ за единый рабочий и народный фронт против фашизма и войны в 1934-1938 г.г." - 1972
2. Налівайка Ф.К. - "Английская дипломатия и первый марокканский кризис 1905-1906 г.г." - 1967

**Дзядзька АЛЕСЬ.**

ВЫСТУПЫ

# АБ СТАНОВІШЧЫ Ў БЕЛАРУСІ І ЗАДАЧАХ НАРОДНАГА ФРОНТУ

**(Даклад З.ПАЗЬНЯКА на IV зьезьдзе БНФ)**

Паважаныя спадарыні і спадары, шаноўныя дэлегаты, паважаныя госьці!

Нашаму пакаленьню, гэтак жа як і папярэднім, выпала доля жыць у цяжкі для Бацькаўшчыны час. Сёньня ён асабліва дрэнны. Пад пагрозай наша незалежнасьць, наша нацыянальная ўласнасьць і нашы асноўныя грамадзкія каштоўнасьці. Скрыта і адкрыта адбываецца захоп Беларусі Расеяй. Пагроза расейскага імперыялізму, пра якую мы казалі перад гэтым увесь час, цяпер ажыцьцяўляецца.

Тое, што сёньня адбываецца на нашай зямлі - гэта халодная вайна супраць незалежнасьці нашай краіны, якую вядзе аб'яднаная зьнешняя і ўнутраная мафіёзная рэакцыя. Гэтым тлумачыцца сутнасьць і матывы парадаксальных, абсурдных, на першы погляд, паводзінаў Прэзідэнта, Кабінета міністраў, дэпутацкай большасьці Вярхоўнага Савета, усёй састарэлай і аджылай іерархіі і ўлады ў Беларусі.

Гэта ня проста здрадніцтва. Гэта сьветапогляд дэнацыяналізаванай беларускай камуністычнай наменклатуры, якая, як і раней, трымае ўладу на Беларусі. Сьветапогляд, які зыходзіць з таго, што беларускай незалежнасьці, беларускай дзяржавы, беларускай мовы, беларускай культуры і беларускага асобнага дабрабыту па іх перакананьнях ня можа і не павінна быць. Не адхіліўшы гэтую наменклатуру ад улады, пабудаваць вольную заможную Беларусь, стварыць дабрабыт усёй нацыі немагчыма.

Аднак, гістарычны час, адпушчаны дзеля свабоды, быў змарнаваны, шанцы страчаныя. Хворае беларускае грамадзтва яшчэ ня здольнае было падняцца з каленяў ні ў 1991-м пасьля правалу камуністычнага путчу ў Маскве, ні ў 1992-м пасьля гвалтоўнай забароны рэферэндуму аб выбарах новага Вярхоўнага Савета, ні ў 1994-м на выбарах прэзідэнта, ні цяпер. Духоўны, палітычны, псіхічны параліч беларускага грамадзтва скарыстала Масква і ўладная наменклатура на Беларусі.

У 1992 г. пасьля незаконнай забароны рэферэндуму аб нечарговых выбарах пачаўся адкрыты наступ наменклатурнай рэакцыі на Беларусі. Умацаваліся разьведвальныя сьпецслужбы Расеі, якія стварылі на Беларусі сваю агентурную сетку, узялі пад кантроль шмат якія грамадзкія, палітычныя і ўрадавыя арганізацыі, у тым ліку Савет Міністраў, дзе былі створаныя сьпецыяльныя не прадугледжаныя Канстытуцыяй аддзелы і ўпраўленьні, у тым ліку сумна вядомы Дзяржсакратарыят на чале са спадаром Данілавым. Палітыка Саўміна, які да гэтага часу падпарадкоўваў сабе наменклатурную большасьць Вярхоўнага Савета, рэзка павярнулася ў бок Расеі, адмаўленьня ад уласнай нацыянальнай дзяржаўнай палітыкі, нейтралітэту, дабрабыту і незалежнасьці. У гэты час распрацоўваюцца і прапануюцца розныя маскоўскія ініцыятывы тыпу "эканамічнага саюзу", "калектыўнай бясьпекі", "аб'яднаньня грашовых сістэм" і інш.

Іменкньні рэфармаваць беларускую эканоміку на рынкавай аснове былі адкінутыя, спробы спыненыя. Пачалося маштабнае раскраданьне дзяржаўнай уласнасьці наменклатурай, рэзка вырасла карупцыя, зьнізіўся жыцьцёвы ўзровень людзей, выявіліся выразныя, падтрыманыя Масквой, імкненьні да аўтарытарызму В.Кебіча, якія завяршыліся чарговай авантурай - выбарамі прэзідэнта Беларусі і асабістым крахам В.Кебіча.

На авансцэну беларускай дзяржаўнай палітыкі выйшлі яшчэ больш цёмныя антынацыянальныя сілы, агрэсіўныя, з нізкім культурным узроўнем, прымітыўнай маральлю, цынічнай непавагай да законаў і права. Хуткімі тэмпамі рыхтуецца здача маёмасьці і дзяржаўнасьці Беларусі, грамадзтва правакуюць на канфлікты і супрацьстаяньне, падвяргаюцца сумненьню і аплёўваньню спрадвечныя нацыянальныя гуманітарныя каштоўнасьці.

Масква цераз сваіх праваднікоў ва ўладзе Беларусі навязвае тыповую імперскую палітыку разбурэньня чужога ёй грамадзтва, палітыку, якая, на шчасьце, праваліліся ў балтыйскіх карінах, але жахлівыя вынікі якой пажынаюць людзі ў Малдове, Чачні, Грузіі, Таджыкістане і шмат дзе яшчэ.

6 студзеня 1995 года Старшынёй Кабінета Міністраў пры Прэзідэньце Рэспублікі Беларусь М.Чыгіром, парушаючы законы, падпісаны Мемарандум "О расширении и углублении белорусско-российского сотрудничества" і шэраг пагадненьняў, падрыхтаваных Расейскай Федэрацыяй ("О Таможенном союзе", "Об основных принципах создания финансово-промышленных групп", "О порядке завершения строительства, использования и содержания Узла Барановичи,системы предупреждения о ракетном нападении" і інш.) Зьмест гэтых дакумантаў раскрыты ў заключэньнях экспертаў і сьпецыялістаў Апазіцыі і Ценявога Кабінета Народнага Фронту сьведчыць аб змове і сумесных дзеяньнях расейскай і беларускай мафіёзнай бюракратыі, накіраваных на захоп эканомікі і нацыянальнай маёмасьці Беларусі. Расейская кіруючая бюракратыя, якая валодае цяпер ужо ня толькі ўладай, дзяржавай, але і прыватнай уласнасьцю на маёмасьць дзяржавы, дамагаецца для сябе гарантаванага бяспошліннага транзьіту ўсіх відаў тавараў і энергарэсурсаў праз Беларусь, ліквідацыю беларускага экспарту ў трэція краіны, бясплатнай прысутнасьці расейскіх ваенных баз і экалагічна шкодных ваенных аб'ектаў на тэрыторыі Беларусі, ліквідацыі межаў паміж Беларусяй і Расеяй і сумеснага распараджэньня (аховы) Беларускіх межаў з трэцімі краінамі, свабоднага, нічым не абмежаванага перамяшчэньня расейскай рабочай сілы на тэрыторыі Беларусі, пераходу ключавых пазіцыяў эканомікі (заводаў, прамысловых галін, інфраструктуры) ва ўласнасьць расейскіх канцэрнаў і фінансава-прамысловых груп з магчымасьцю наступнага закладу і перапрадажы яе заходнім банкам.

Гэтыя палажэньні, адлюстраваныя ў пагадненьнях, маюць, перш за ўсё, палітычны характар і накіраваныя на поўнае зьнішчэньне суверэнітэту і дзяржаўнасьці Беларусі.

21 лютага 1995 года, груба парушыўшы Канстытуцыю, дзе адлюстраваны асновы існаваньня беларускай дзяржавы, прэзідэнт А.Лукашэнка падпісаў яшчэ восем расейска-беларускіх дакумантаў, падрыхтаваных і навязаных расейскім бокам. Згодна гэтых дагавораў і пагадненьняў, Беларусь будзе пазбаўлена магчымасьці самастойна кіраваць сваёй дзяржаўнай мяжой. Кіраўніцтва нашымі межамі будзе беларуска-расейскае. Расея ўводзіць на нашы межы свае атрады, карыстаецца нашымі аэрадромамі, паветрам, запраўкай і г.д., паабяцаўшы за гэта танную нафту. Але, як высьвятлілася, гэтая, разьлічаная на дурняў абяцанка, нерэальная.

Беларусь, згодна пагадненьняў, падпісаных А.Лукашэнкам, будзе пазбаўлена права самастойна кіраваць сваёй мытнай службай, распараджацца мытнай палітыкай і мытнымі дзеяньнямі. Побач з беларускім кіраўніцтвам нашай мытняй будуць кіраваць расейцы, прымаць аператыўныя рашэньні і г.д. Практычна Беларусь пазбаўляецца свайго выгаднага экспарту ( бо ня можа самастойна без Расеі вызначыць мытную палітыку з трэцімі краінамі) і траціць магчымасьць атрымліваць даходы за транзьіт.

Павінен сказаць, што нашы даходы за транзьіт могуць раўняцца ад 1,5 да 2 мільярдаў долараў у год. Гэта сума амаль роўная гадавому бюджэту Беларусі. Нашае геаграфічнае становішча - адзін з галоўных рэсурсаў краіны - падпісанымі пагадненьнямі зьнішчаецца.

Пагадненьне "аб асноўных прынцыпах стварэньня фінансава-прамысловых групаў", як засьведчылі эксперты Грамадзкага Кабінету Міністраў Апазіцыі Народнага Фронту, дае магчымасьць расейскаму боку захапіць і прыватызаваць эканамічную ўласнасьць беларускага народа. Яно дазваляе вывесьці найбольш капіталаёмкія часткі беларускай нацыянальнай індустрыі са сьферы нацыянальнай прыватызацыі, сканцэнтраваць вытворчасьці, капіталы і стратэгічную інфраструктуру нашай краіны ў руках вузкага кола расейскіх асобаў, што належыць да адной карпарацыі - былой партыйнай наменклатуры. Адсюль вынікаюць і палітычныя мэты гэтага пагадненьня: разбурэньне эканамічнай асновы суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, як першы этап палітычнай інкарпарацыі яе ў Расею і рэстаўрацыя мафіёзна-таталітарнай палітычнай мадэлі.

Старшынёй Кабінета Міністраў М.Чыгіром падпісаны беспрэцэдэнтныя, парушаючыя законы і здаровы сэнс пагадненьні аб передачы Расеі на 25 гадоў дзеля завяршэньня будаўніцтва і выкарыстаньня станцыі сістэмы папярэджаньня аб ракетным нападзеньні пад Ганцавічамі і радыёстанцыі ў Вілейцы. Запуск гэтых непатрэбных і небясьпечных для нас аб'ектаў найгоршым чынам паўплывае на здароўе людзей. Ад 30 да 40 тысячаў чалавек, у тым ліку і горад Ляхавічы, трапляюць у небясьпечную зону выпраменьваньня. Такія аб'екты нельга разьмяшчаць у населеных тэрыторыях.

Пагадненьні і дагаворы з Расеяй, падпісаныя кіраўнікамі выканаўчай улады Беларусі ў пачатку гэтага года, утрымліваюць прыкметы нацыянальнай здрады. Дакуманты падлягаюць ратыфікацыі. Але добра вядома, што наменклатурная большасьць гэтага Вярхоўнага Савета можа ратыфікаваць усё, нават землятрус, нават нацыянальную сьмерць.

У чым жа сацыяльна-эканамічныя прычыны такіх, на першы погляд, абсурдных, самазабойных паводзінаў цяперашняга кіраўніцтва Беларусі?

Першая і галоўная - гэта нацыянальная прадажнасьць беларускай наменклатуры і бюракратыі, яе правінцыяльная ментальнасьць, адсутнасьць патрыятызму, нацыянальнай сьвядомасьці, псіхалогія халуйства , бескультур'е.

Другая - шкурныя інтарэсы, прывычка жыць за кошт дзяржавы, нажывацца.

Трэцяя - палітыка расейскай мафіёзнай бюракратыі.

За кароткі час расейская камуністычная наменклатура істотна перабудавалася. З калектыўнага ўласьніка дзяржаўнай маёмасьці і дзяржавы, як было пры КПСС, яна, захаваўшы за сабой уладу, стала прыватным уласьнікам маёмасьці дзяржавы, былыя наменклатурныя камуністы, павыкідаўшы непатрэбныя партбілеты, сталі капіталкамуністамі. Цяпер там былыя члены ЦК КПСС, кіраўнікі гаркамаў і абкамаў,седзячы на дзяржаўных пасадах, сталі багатымі людзьмі, уладальнікамі капіталаў, дывідэнтаў і нерухомасьці, кіраўнікамі банкаў, фірмаў і канцэрнаў, валодаюць валютнымі рахункамі і пакетамі акцыяў, пракручваюць выгадныя зьдзелкі, зрошчваюцца з замежным капіталам і г.д. Вось і ўся сутнасьць бюракратычнай перабудовы ў Расеі. На дзьве часткі раскалолася КПСС па лініі "Гарбачоў-Ельцын". Выйграла групоўка Ельцына, узьняўшы сьцяг дэмакратыі, рынкавых рэформаў і суверэнітэту. Тактыка геніяльная і выніковая. Па-першае, гэта дало магчымасьць расправіцца з гарбачоўскімі артадоксамі, па-другое, аб'яднаць вакол сябе ўсё грамадзтва і не дапусьціць апазіцыі. Слабенькая і нявопытная руская дэмакратыя, замест таго, каб дыстанцыравацца, увашла ў структуры бунтуючай ліберальнай наменклатуры і, апаганіўшыся, раствярылася там амаль бясьследна. Месца ж дэмакратычнай апазіцыі занялі ў Расеі чырвона-карычневыя групоўкі і людзі ўчарашняга дня. Зразумела, якой можа стаць палітычная персьпектыва ў такой краіне.

Па-трэцяе, - гэта дало магчымасьць наменклатуры прыватызаваць дзяржаўную маёмасьць (9 працэнтаў насельніцтва прыватызавалі 50 працэнтаў дзяржмаёмасьці) і лёгка абрабаваць астатніх жыхароў Расеі.

Але самае галоўнае, што пры гэтым расейская камуністычная наменклатура поўнасьцю захавала сваю ўладу ў длзяржаве і ўмацавала яе бюракратычную аснову, якая значна павялічылася. Адбылася канцэнтрацыя капіталу, перамянілася і пабольшала эканамічная база бюракратыі, утварыліся групоўкі і кланы, арганізаваліся саўдзельнікі ў нажыве і абагачэньні, гатовыя страляць і за грошы перагрызьці адзін аднаму горла.

Наменклатурная перабудова ў Расеі адбылася.Бюракратыя стала па праву прыватнай уласнасьці валодаць ня толькі дзяржаўнай уладай, але і эканомікай, і банкамі, і фінансамі дзяржавы. У выніку ў Расеі ўтварыўся не цывілізаваны рынак, які грунтуецца на канкурэнцыі і законах, а мафіёзна-бюрактарычны, заснаваны на манаполіі і крымінале.

Такі хворы эканамічны рэжым доўга існаваць ня можа. Адбываецца хуткая крыміналізацыя грамадзянства, а эканоміка, вычарпаўшы рэсурсы, задыхаецца. Таму бюракратыя пачынае шукаць ворагаў, вінаватых, аб'екты адцягненьня сацыяльнай увагі. Яна хапаецца за імперскую дактрыну, за шавінізм, шукае свае інтарэсы за мяжой. У суседзяў і г.д. Войны і авантуры, экстэнсіўная экспансіянісцкая палітыка - непазьбежныя вынікі такой імперыялізаванай дзяржавы. Яна робіцца пудзілам, страшыдлам для ўсяго цывілізаванага сьвету, але, найперш, для суседзяў і паняволеных народаў.

Расея патраціла на чачэнскую вайну, на генацыд і вынішчэньне чачэнцаў каля 10 мільярдаў долараў. Кампенсацыю гэтай авантуры вырашылі шукаць у Беларусі. Пра гэта адкрыта гавораць найбольш цынічныя дэпутаты ў Расейскай Думе і не скрываюць палітыкі. Цяпер мы назіраем прымяненьне гэтай палітыкі "кампенсацыі".

Прэзідэнцкія выбары летам 1994 г. паказалі, што стаўка расейскіх сьпецслужбаў і структураў КДБ была зробленая на Адяксандра Лукашэнку. І гэта не выпадкова. Палітыка, якая потым пачалася, носіць усе радзімыя плямы гэтых структураў. Была адкінута дэкларацыйная дэмагогія аб кансалідацыі грамадзтва, якой карыстаўся Кебіч. Адкрыта пастаўлена на раскол народа. Апошнія ініцыятывы А.Лукашэнкі аб рэферэндуме па мове і дзяржаўнай сымболіцы - выразнае таму сьведчаньне.

Калі Кебіч і яго група на словах заўсёды былі быццам бы за беларускую дзяржаву і суверэнітэт, то новае кіраўніцтва адкрыта выступіла супраць. "Суверэніцет - эта чэпуха", - было заяўлена Прэзідэнтам.

Кебіч не выступаў па-беларуску, адносіўся абыякава да культурнагша і моўнага адраджэньня, але не зьневажаў мову, не дэманстраваў варожасьць. Новы кіраўнік, не валодаючы як належыць ні беларускай, ні рускай, кіпіць нянавісьцю і зьдзекам; яго аж перамыкае ад аднаго гучаньня роднай гаворкі. Ён гаворыць супраць беларускай школы злосна і часта.

Кебіч абыходзіў, парушаў законы, не трымаўся іх, але гэтага не афішаваў і стараўся не выдаваць заканадаўчых актаў, якія б у лоб пярэчылі Канстытуцыі.

Новы кіраўнік выканаўчай улады "прост, как правда". Законы і Канстытуцыя парушаюцца адкрыта, груба і цынічна як у заканадаўстве, так і ў выкананьні. Яму нічога не каштуе заявіць, што тыя ці гэтыя законы ён выконваць ня будзе. А як тады, спытаем, трэба абыходзіцца з законам простаму грамадзяніну і ўсім астатнім?

Дэмаралізуючае ўзьдзеяньне новага кіраўніцтва на грамадзтва відавочнае. Яно бачна і адчуваецца паўсюдна. І справа тут ня толькі ў бескультур'і. Гэта таксама палітыка.

Усё адбываецца на фоне разгулу карупцыі і крымінальшчыны, зьніжэньня жыцьцёвага ўзроўню, падвышэньня цэнаў, правалу ў эканоміцы, прававога валюнтарызму. Усё гэта аблягчае дарогу эканамічнаму шантажу з боку расейскіх манаполіяў і мафіёзна-палітычных групаў. Усё гэта дапамагае праваднікам расейскіх інтарэсаў на Беларусі апраўдваць сваё здрадніцтва, здачу пазіцыяў у эканоміцы, транзьіце, гандлі, экспарце і г.д.

У сітуацыі, што склалася на Беларусі, ёсьць аднак акрамя ўлады і яе палітыкі яшчэ адзін суб'ект існуючага становішча. Бадай галоўны. Гэта - народ, дакладней насельніцтва, жыхарства краіны. На мой погляд, тут не павінна быць ніякіх ілюзіяў і беспадстаўных надзеяў. Наша грамадзтва хворае ў фізічным, духоўным і сацыяльным сэньсе. Яно падведзена да мяжы культурнай і маральнай дэградацыі. Яно колькасна вымірае, а дзяржава, у якой жыве гэты народ, ня мае адзінай абагульняючай ідэі. Такое грамадзтва лёгка становіцца аб'ектам эксплуатацыі і самай, што ні ёсьць, прымітыўнай маніпуляцыі сьвядомасьцю. Вылекавацца такое грамадзтва можа толькі ва ўласнай нацыянальнай дзяржаве, якая будзе спрыяць нацыянальна-культурнаму адраджэньню. Усе іншыя шляхі неперсьпектыўныя.

Можна спрагназаваць некалькі варыянтаў разьвіцьця падзей і шляхоў выхаду са становішча. Аднак, самым простым, рэальным і надзейным выйсьцем маглі б стаць пасьпяховыя выбары нацыянальна арыентаванага дзеяздольнага парламанта.

Мы на парозе гэтых падзей і я б сказаў - апошняга самастойнага шанцу ў шэрагу гістарычных перэпетый. Калі і гэты шанц будзе страчаны народам (а гэта, падкрэсьліваю, шанц народа, бо відбірае ён), тады актыўная рада беларусаў ва ўласнай палітыцы спыніцца надоўга і наш нацыянальны лёс будзе залежыць хутчэй ад распаду Расеі, чым ад сваёй волі. Гэта ня значыць, што спыніцца стваральная праца і барацьба, але гэта будзе цяжкая, доўгая стамляючая праца, праца дзеля будучыні, якой мы і жывем вось ужо 200 гадоў.

Дарэчы, Масква гэта таксама добра разумее і любымі спосабамі імкнецца перашкодзіць правядзеньню нармальных выбараў на Беларусі. Чаго варты толькі ўнікальны сваёй антыдэмакратычнай і антыканстытуцыйнай прасталінейнасьцю ўказ прэзідэнта Лукашэнкі N 124 ад 30 сакавіка аб забесьпячэньні роўных магчымасьцяў у выбарах.

Тут груба і без цэрымоній, насуперак Канстытуцыі і Закону аб выбарах, выканаўчая ўлада бярэ на сябе функцыі Цэнтральнай выбарчай камісіі ў правядзеньні выбараў і, відаць, зьбіраецца іх "праводзіць", ствараючы невыносныя ўмовы для кандыдатаў. Падрыхтаваная цэлая група кадэбісцкіх правакатараў, у тым ліку і з грамадзянаў Расеі, супраціўнікаў ФСК (прозьвішчы мне іх вядомы, так што хай яны не лямантуюць у друку раней часу пра сваю бязгрэшнасьць). Манапалізавана радыё і тэлебачаньне. Чакаецца наплыў у Беларусь розных "місіянераў" з Расеі і г.д. Улады будуць перашкаджаць на кожным кроку.

Калі насуперак Канстытуцыі і закону распачаць рэферэндумы аб мове і сымболіцы, гэта расколе, палярызуе выбаршчыкаў і "разьмяжуе" цэнтр, паставіць выбары пад пагрозу зрыву, бо наўрад ці набярэ хто з кандыдатаў патрэбную большасьць галасоў.

Сябры Народнага Фронту павінны разумець, што ў гэтых умовах вельмі важна скрупулёзная дакладная праца з выбаршчыкамі, фармальнае выкананьне ўсіх законаў і кантроль за галасаваньнем, на выбарчых участках, каб запабегчы фальсіфікацыям выбараў.

Сур'ёзна трэба аднесьціся таксама да выбараў у мясцовыя саветы, помнячы, што ніщто ня вечнае ў гэтым сьвеце - ні вертыкальнае, ні дыяганальнае. Рэформы ж павінны праводзіць людзі, здольныя іх ажыцьцяўляць.

Галоўная мэта ўсіх дзеяньняў - адстаяць наш суверэнітэт, запабегчы акупацыі і захопу Беларусі. Найважнейшая каштоўнасьць цяпер для беларусаў - нацыянальная дзяржава. Толькі яна дае магчымасьці стварыць годныя ўмовы для ўсебаковага разьвіцьця нацыі, дэмакратыі, культуры, эканомікі. У сёньняшніх варунках гэта тая ідэя, якая можа аб'яднаць і скансалідаваць большасьць нацыі. Наіўна абурацца ці зьдзіўляцца, што прэзідэнт ці прэм'ер нечага не разумеюць, даказваць, што гэтым яны зробяць шкоду краіне. Суверэнітэту. Тыя, хто гэта робіць, добра ведаюць, што робяць і чыю палітыку ажыцьцяўляюць. Пара пазбаўляцца ад палітычнай наіўнасьці тым, хто яшчэ не пазбавіўся, і ўспрымаць становішча рэальна, такім, якім яно ёсьць. Рэальны погляд на рэчы дапаможа змагацца са злом, рабіць правільныя высновы, выніковa, дакладна працаваць і дамагацца вынікаў, нягледзячы ні на што.

Нягледзячы на ганебны вынік прэзідэнцкіх выбараў, якія зьдзівілі ўвесь сьвет, Беларусь ужо ня тая, што была чатыры гады назад. Ніякія дыскрымінацыйныя дамовы і пагадненьні, падпісаныя насуперак законам, ня будуць прызнанымі. Іх дэнансуюць рана ці позна. Тое ж самае і з рэферэндумамі, якія хочуць правесьці ў абстаноўцы ашуканства, манаполіі на сродкі масавай інфармацыі, парушаючы Канстытуцыю і закон. Ніякі парламант не прызнае вынікі такога рэферэндуму. Бо гэта відавочная маніпуляцыя масавай сьвядомасьцю па пытаньнях, якія масавай сьвядомасьцю не вырашаюцца і на галасаваньне не выносяцца. Так што ня трэба драматызаваць і перабольшваць значэньне чарговага папулісцкага шоў. Будзе нармальная нацыянальная, а не антынародная ўлада, будзе незалежная беларуская дзяржава - усё вернецца на сваё месца.

Таму адраджэнцкая стваральная праца, якой займаецца Народны Фронт, - справа добрая і высакародная. Яна абавязкова дасьць плён. Дабро не зьнікае. Мы не павінны пакідаць гэту працу, як бы цяжка не было нашай Бацькаўшчыне. У ёй, у яе сьветлай ідэі, крыніца нашай надзеі і нашага аптымізму. Жыве Беларусь!



# ВЯРНІСЯ ДА СВАЁЙ ЗОРКІ

**Дыялог**

**Пасьля наведваньня выставы берасьцейскай мастачкі Анастасіі Фяцісавай**

Размаўляю са сьветам
мовай фарбаў і ліній,
далікатных і тонкіх,
як празрыстая ява,
як дзівосная мроя,
што праз дождж пранікае,
сьветлы "Дождж над кляштарам..."

Не знаходжу на сьвеце
я праз безьліч сустрэчаў
тых, хто здольны разьвеяць
недавер, боль, тугу.
І табе, мая зорка,
дзе прытулак сустрэну,
шлю цяпло свайго сэрца,
шлю пяшчоту сваю...

Мы прыходзім у гэты сьвет аднекуль, з невядомасьці, бясконцасьці, блукаем тут, хто па сьцяжынках, хто па дарогах, хто па пакутах. І забываемся часта, што ўрэшце павінны будзем вярнуцца ў тую ж бясконцасьць. А ўсё ж патрэбна - памятаць пра вяртаньне і вучыцца рабіць гэта ўжо тут, зараз. Вяртацца ў маленства, у нашы вёскі, што гінуць, у нашы праўдзівыя месцы, што даўно зруйнаваны, у першы сьнег. Вядома, вяртацца не на ўзроўні рэальнага дзеяньня. Бо тое - папросту немагчыма. Застаецца - вяртацца ў мроях. Навошта? Каб пасьпець за адведзенае тут адчуць сябе на сваёй зямлі, адчуць сябе не бязродным, не бяздомным, пасьпець палюбіць і пакахаць. Ці хаця б зразумець, што гэтыя намаганьні - пасьпець - марныя. І тады спадзявацца на сваё шчасьце там, у зорным небе.

Сьвет Анастасіі Фяцісавай усхваляваў якраз гэтым - спробай вяртаньня. У тое, колішняе Бярэсьце, якое сталася ўсяго толькі міражом, блакітна-ружовай марай. А мо і сапраўды, існуе толькі тое, пра што мы памятаем. Няхай яго няма ў сапраўднасьці, але калі мы пра нешта памятаем, то для нас гэта нешта існуе. "Под небом голубым есть город золотой..." А ў горадзе мноства дзівосаў, якія кожны стварае сабе сам. Найбольшае з цудаў - калі ў тваім горадзе ёсьць ён, каханы, адзіны. Найсьвятлейшае, калі ён думае пра цябе, найгоршае, калі ўсё між вамі перакрэсьлівае здрада. І самае страшнае, калі ты хочаш назаўсёды пакінуць гэты блакітна-залаты горад, гэты сьвет. Не сьпяшайся, пачакай! Вярніся да сваёй зоркі. Яна абавязкова недзе ёсьць у высокім небе. Яна абавязкова зразумее, і, вер, дапаможа, пашле табе сваю пяшчоту, цяпло. І ты па-новаму адчуеш, што ты ёсьць, і гэта - шчасьце. Няхай ваш бясслоўны дыялог доўжыцца столькі, колькі трэба будзе душы дзеля супакаеньня. Няхай ён узнаўляецца заўсёды, калі ізноў стане невыносна. Няхай твая зорка вучыць цябе вяртацца да сябе, а мо і да яго; хай вучыць, як зьнішчыць нявернасьць і прайсьці праз вернасьць. Здаецца, знайшла! Ці, дакладней, успомніла паэтава, менавіта - прайсьці праз вернасьць. Вось тое, чаго не хапае, што страцілі. Страцілі абсалютна сьвядома, з лёгкасьцю. Бо навучыліся без ваганьняў, без сораму нават, як непатрэбнае шалупіньне, адкідаць усё, што патрабуе душэўных высілкаў, што прымушае адмовіцца ад ярка-салодкага, лёгкага, даступнага, але ж - непраўдзівага, пустога і - ці патрэбнага? Адмовіліся ад таго, што робіць нас людзьмі. І верыць развучыліся. Бо самі - няверныя. Страшэнна баімося пакутаў здрады, баімося быць падманутымі. Бо гэта абражае, гэта балюча. Таму вырашаем: лепш абмануць, чым абмануцца.

Дыялог Анастасіі Фяцісавай са сьветам, з намі - гэта ня толькі спроба паказаць нам, што мы ўжо страцілі, але і папярэджаньне - ня страціць тое, што яшчэ маем.

Вера, вернасьць, вяртаньне. Вернемся?..

**А.ПЕТРУШКЕВІЧ.**

## ПЕРШАЯ КРАМА - СУПЕРМАРКЕТ

Адкрыта ў Берасьці аддзяленьнем Саюза прадпрымальнікаў у памяшканьні (па вул.Савецкай, 134) былой "камісіёнкі". Затрацуўшы на рэканструкцыю, абсталяваньне і яго абнаўленьне дзесяткі мільёнаў рублёў, прадпрымальнікі абяцаюць разнастайны асартымент і самыя нізкія кошты на прадукты харчаваньня. У краме, акрамя секцый па продажу прадуктаў харчаваньня, мацца аптэка і аддзел тавараў бытавой хіміі, а гандаль ідзе ня толькі ў розьніцу, але і гуртовы.

Адзінае, што засталося з часоў камісійнай крамы - штат прадаўцоў.

## СПРАВА ЗА САЎМІНАМ

З канвейера Гарадзенскага завода карданных валаў у студзені сышлі першыя дзесяць аўтамабіляў "АКА". Яшчэ дзесяць малалітражак, купленых у Расеі, рэалізаваны пры вывучэньні спажывецкага попыту.

"Пагоня" паведамляла, што аўтамабіль "АКА" камплектуецца з запчастак, якія пастаўляюцца на гарадзенскі завод расейскім канцэрнам "КамАЗ" па ўзаемаразьліку.

Але ці будзе "АКА" і надалей зьбірацца ў памежнай Горадні - пытаньне. Як паведаміў карэспандэнту маскоўскага агенцтва "ИМА-пресс" намесьнік дырэктара завода па эканоміцы Казімір Зьверанскі, "пры існуючай падаткавай палітыцы дзяржавы ў 1994 годзе іх кошт даходзіў да 2900 долараў, яшчэ пры такім кошце машына можа мець попыт, але,з улікам новых падаткаў,яе кошт павялічваецца да чатырох тысяч долараў". На аўтарынках Беларусі за тры тысячы "баксаў" можна ўзяць добрую іншамарку. "АКА" з камплектуючых дэталей канцэрна "КамАЗ" тут зьбіраецца ўсяго чатырма рабочымі за трое сутак.

"Праўда, пры адмене ўрадам рэспублікі цэлай сістэмы падатковых элементаў, якія ўплываюць на кошт, ёсьць магчымасьць выпускаць малалітражкі. Папярэдняя дамова ўжо існуе аб іх выпуску для патрэб Міністэрства сацыяльнага забесьпячэньня рэспублікі, якому штогод неабходна чатыры тысячы легкавікоў..."

**Л.ЯСЕНЬ.**



**ВЯСНА ЗАЎЖДЫ ПРЫЕМНА.**
**Фатаграфаваў: А.УЛАДАСЕВІЧ.**

## СПОРТ

### ЧЭМПІЯНАТ ЗАВЯРШЫЎСЯ, АЛЕ НЕ ДЛЯ ЎСІХ

Завяршыўся чарговы, трэці па ліку нацыянальны чэмпіянат Рэспублікі Беларусь па баскетболу сярод мужчынскіх і жаночых каманд. У мужчын, як і меркавалася, перамогу атрымалі гульцы сталічнага "РТІ". Сьледам за менчукамі фінішавалі баскетбалісты гарадзенскага клубу "Гродна-93", трэцюю прыступку ў выніковай турнірнай табліцы заняў малады клуб "Аўтазаводзец". У жанчын першынстваваў на чэмпіянаце баскетбалісткі каманды "Гарызонт-1", другімі сталі спартсменкі магілёўскага "Гермесу".

Чэмпіянат скончыўся, але для мацнейшых гульцоў ён будзе доўжыцца. Мужчыны, пасьля ўдзелу на прадстаўнічым турніры ў Турцыі, пераедуць з Анкары у Македонію, дзе з 15 па 30 траўня возьмуць удзел у кваліфікацыйным турніры чэмпіянату сьвету. Жанчыны свой кваліфікацыйны турнір правядуць у той жа тэрмін на Зямлі Абяцанай. Трэнерамі нашых зборных прызначаны: у мужчын - А.Барысаў, у жанчын - С.Халіпскі.

**Г.А.**

### АБЯЦАНКІ-ЦАЦАНКІ

Хутка ў Гарадзенскіх ветразьнікаў распачнецца новы сезон.

На жаль, іх база ў вёсцы Азёры не вытрымлівае аніякай крытыкі. Будынкі базы яшчэ ў 1991 годзе выкупіла адна камерцыйная фірма з мэтай рэстаўрацыі, але больш, чым на абяцанкі, фірмачоў не хапіла.

**А.С.**

### «РЫТМ» НА УКРАІНЕ

Гарадзенскі ХК "Рытм" бярэ ўдзел у адкрытым чэмпіянаце Украіны па хакею на траве. Нашы зямлячкі пасьля першага тура займаюць трэцяе месца.

Другі тур першынства Украіны пройдзе ў траўні ў горадзе Барыспаль.

**Г.А.**

### НІЧЫЯ З ЛІДЭРАМ

Удала стартавау у другім крузе нацыянальнага чэмпіянату Беларусі па футболу лідзкі "Абутнік". Лідчукі на выезьдзе перамаглі ФК "Маладэчна" і ў дамашняй гульні падзялілі ачкі з лідэрам - віцебскім КІМам. Лік - 1:1.

А вось другі наш клуб "Нёман" з Горадні мае пасьля двух сустрэч толькі 50-працэнтны вынік. Пройгрыш ў Бабруйску "Шыньніку" - 1:2, і перамога дома над віцебскім "Лакаматывам" - 2:1.

**Г.Н.**

## КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

### ХТО ЗАБІЎ БАЦЬКУ?

Алкагольна-ачмурэлая навала працягвае сваё крывавае шэсьце. Ня сталі выключэньнем і мінулыя дні, бо жудасныя і невыносныя крыкі чутны былі днямі ў многіх вёсках, мястэчках і гарадах вобласьці.

У вёсцы Хоцькаўцы Ваўкавыскага раёна родны сынок так пабіў 72-гадовага бацьку, што той у непрытомным стане з чэрапнамазгавой траўмай памёр у шпіталі.

* * *

Яшчэ адзін сын-забойца затрыманы ў абласным цэнтры. На гэты раз ахвярай "роднай крыві" стала маці. "Пал-пота".

* * *

Ня лепшыя адносіны складваюцца, часам, і паміж благавернымі.

У Лідзе сумеснае застольле закончылася кратамі для мужыка і шпіталізацыяй для жонкі, якую разгарачоны рабочы-будаўнік агрэў абухом сякеры.

### КУДЫ ІДЗЕМ?

Цяжка ўявіць, як жывёлы забіваюць сваё патомства. Могуць падкінуць яйка, як зязюля, альбо пакінуць з нагоды небясьпекі, але забіць...

А вось людзі - тыя могуць. Усё часьцей і часьцей мы атрымліваем паведамленьні аб маці-забойцах.

Напрыклад, на Слонімскай звалцы сьмецьця быў знойдзены труп немаўляці са сьлядамі задушэньня і камяком ваты ў роце. У той жа дзень маці-вылюдак была знойдзена. Ёй аказалася рабочая камвольна-прадзільнай фабрыкі.

На жаль, слонімскі выпадак праз тры дні паўтарыўся ў Воранаве, дзе ля чыгункі быў знойдзены труп немаўляці, загорнуты ў поліэтыленавую плёнку.

### КРЫМІНАЛЬНЫЯ ТАЛЕНТЫ

Да чаго толькі не дадумаецца чалавек, каб нейкім чынам палепшыць свой "бюджэт". Але, каб годным шляхам - дык не...

Вадзіцель аўтакамбіната N 6 "вынайшаў" свой арыгінальны тайнік - загрузіў 33 кг мяса пад капот аўтамабіля, але з гэткім каштоўным грузам здолеў даехаць толькі да прахадной мясакамбіната...

* * *

Зноў жа ў Горадні, злачынная група паклала вока на кватэру работніцы ўнівермага па вуліцы Пушкіна. Першай ісьці "у бой" вызвалася 14-гадовая дзяўчынка. Праз балконныя дзьверы яна трапіла ў кватэру, прыглядзела ў ёй два відэамагнітафоны "Панасонік", заручальны пярсьцёнак, духі, відэакасеты, 20 тысяч рублёў і - на выхад. Але спазьнілася. Першымі дзьверы, толькі з другога боку, адчынілі гаспадары...

* * *

Яшчэ адзін падобны крадзёж учынены ў доме па вуліцы Дамброўскага. На гэты раз злачынцы трапілі ў кватэру на першым паверсе праз фортку і вынесьлі адтуль відэатэхніку, залатыя вырабы, а таксама долары і маркі.

### А НОЧКА ЦЁМНАЯ БЫЛА

Пачатак красавіка адзначаны ў крымінальнай статыстыцы павышанай "увагай" злачыннага люду да аўтатранспарту. За мінулы тыдзень крадзяжы аўтазапчастак нават пераўзышлі "модныя" зараз замахі на каляровыя металы. Калі апошніх было ўчынена 19, то першых - 29. Асноўным месцам "дзеяньняў" па-ранейшаму застаецца абласны цэнтр. Асабліва бурнай і ў некаторым сэнсе "рэкорднай" аказалася ноч з аўторка на сераду, калі ажно дзевяць легкавікоў, якія "драмалі" у дварах дамоў, падвергліся абрабаваньню. У выніку, здабычай злачынцаў сталі два колы, столькі ж лабавога шкла, калонак, чатыры аўтамагнітолы, 30 аўдыёкасет, акамулятар і нават багажнік.

У той жа час відавочна, што і самі ўладальнікі легкавікоў ствараюць для зладзеяў спрыяльныя ўмовы, пакідаючы сваю маёмасьць без нагляду на ноч.

### ЧОРНАЯ СУБОТА

Пярэдадзень вербнай нядзелі, па каталіцкаму каляндару, адзначаны шматлікімі выпадкамі алкагольна-сурагатных атручаньняў. Усяго з падобным дыягназам было шпіталізавана шэсьць чалавек, з якіх пяцёра памёрлі.

Яшчэ двое чалавек загінулі ў Альшанах, дзе на будоўлі электрастанцыі абваліліся сьцены і пліты перакрыцьця.

**У.ДАНІЛОВІЧ.**



"ПАГОНЯ"
Рэдактар М.МАРКЕВІЧ.
Заснавальнік:
культурна-асьветніцкі фонд
"БАЦЬКАЎШЧЫНА".
Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня,
вул.Дамініканская, 1.
Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.
Газета выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.
Пры передруку спасылка абавязкова.
Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест разьмешчанай у газеце рэкламы.
Індэкс 63124.
Фотанабор, афсетны друк.
Гарадзенская абласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул.Паліграфістаў,4.
Заказ 1422
Наклад 10944 паасобнікі.
Нумар падпісаны да друку 13.04.95, у 16.00